# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 7 (468) | ГОД X | 14 ЛЮТАГА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.


## МІЛЬЕНЫ ДОБРАЙ ВОЛІ

1000 школ амаль пабудавана ўжо ў краіне за добраахвотныя складчыны грамадства. Беластоцкае ваяводства за 6 год сабрала 197 мільёнаў 600 тысяч злотых. Гэта мільёны нашай добрай (і свядомай) волі. У мінулым годзе Беласточчына дала 32 мільёны 653 тысячы злотых і перакрочыла план на амаль 2 мільёны. Тры першыя месцы злавілі паветы: Голдап, Элк і Аўгустаў. Нявыканалі плану таксама тры паветы: Гайнаўка, Сямяцічы і Саколка.

У маштабе ўсяго ваяводства плану не выканалі гаспадары і спулдзельчасць. Найгорш і адны і другія зноў выпалі ў паветах: Гайнаўскім, Сакольскім, Сямяціцкім (вл)

АЛЯКСЕЙ ЗАРЫЦКІ

## СКАРБЫ

Мова,
Наша пявучая мова,
Ты — уладарка нявызнаных скарбаў.
Мае ў сабе твае кожнае слова
Столькі значэнняў, гучанняў і фарбаў.
Іншае слова напоўнена плёскам
Хвалі дняпроўскай.
Іншае слова такое,
Што рэха ляснoe
Ў яго глыбінях затоена.
Есць і як мёд залатое, густое,
На травах яно духмяных настоена.

Ціха гучаць у мове маёй
Словы пяшчотныя,
Словы крынічныя.
Росныя.
Чуюцца ў ёй
І грымотныя,
Зычныя.
Водгулле бітваў у іх
Разлягаецца грознае.

А бывае — заззяе неспадзявана
Новаю зоркаю слова-абнова.
Колькі ў табе нявызнаных скарбаў схавана

Мова наша,
Пявучая мова.



Дарога з Беластока ў Гарадок амаль увесь час праз лес. Лес тут прыгожы, асабліва зімою.
Фота: Паўлючук

## БЕЛАСТОЧЧЫНА Ў ЛЮСТЭРКУ

Прэзідыум ВРН зацвердзіў праграму развіцця жывёлагадоўлі на працягу пяці бліжэйшых гадоў. Праграма дае пяршынства для гадоўлі малочна-мяснога быдла, не абмяжоўваючы, зразумела, далейшага развіцця свінагадоўлі.

Усё яшчэ ў нас на Беласточчыне колькі гаспадароў, столькі пярэстых парод кароў. Спрыяе гэта, праўда, пастухам і гаспадарам распазнаваць, якая красуля да каго належыць, але карысць з гэтага невялікая. Таму штораз шырэй спецыялісты ад жывёлагадоўлі праводзяць у сялянскіх хлявах ацэнку прыдатнасці каровак. У бягучым годзе плануецца ацаніць 22 тысячы кароў. Гэта нямнога, бо пад ацэнку «падпадзе» толькі кожная дваццатая красуля. Не хапае спецыялістаў.

З перыяду барацьбы з сухотамі ў кароў застаўся не вельмі слаўны вопыт. Сяляне віталі ветэрынараў у сябе на панадворку, як злое ліха. Можна спадзявацца, што гэтае ж самае паўторыцца цяпер, калі з'яўяцца яны ацаніць сялянскую худзіну. Зноў дамарослыя «філосафы» і «варажбіты» надумоўваюць цэлыя копы найбольш няпраўдападобных легенд і бязглуздзіц. А справа прадумана сапраўды па-гаспадарску. Вядома, што лепш трымаць адну карову, ад якой кожны дзень можна надаіць 15—20 літраў малака, чымсьці дзве або тры, якія ледзь дадуць па 5—7 літраў.

На тэрыторыі Беласточчыны — дапускаецца да гадоўлі толькі і выключна быдла чырвонай польскай пароды. Для гэтай пароды ўлады даюць пяршынства.

Каб захаваць чысціню пароды, інтэнсіўна развіваецца ўсіх краінах, дзе жывёлагадоўля пастаўлена на высокім узроўні, амаль выключна прымяняецца штучнае апладненне. Каб развеяць сумненні, якія найчасцей узнікаюць з несвядомасці хлебаробаў, ва ўсіх вёсках, дзе толькі праводзіцца штучнае апладненне кароў, плануецца наладзіць курсы прысвечаныя гэтым пытанням. Апрача таго будзе адкрыта аднагадовая школа для вывучэння праблем гадоўлі і штучнага апладнення жывёліны.

## Пашпар для кароў

штучнае апладненне кароў, а для быкоў, якія яшчэ застаюцца ў сялян, гаспадар абавязкова мусіць мець радаслоўную кніжку. Бугаёў невядомага паходжання проста нельга трымаць.

Сярод сялян усё яшчэ шмат недаверлівасці адносна штучнага апладнення кароў, альбо, як кажуць спецыялісты — інсемінацыі. Можна хіба толькі яшчэ раз паўтарыць, што ва

Можна спяваць самыя прыгожыя гімны ў гонар гэтай пакорлівай жывёлы, але яна будзе нам многа больш удзячна, калі пабудуем для яе выгодны кароўнік. ВРН забавязвае будаўнічыя прадпрыемствы пашырыць прадукцыю гатовых жалезабетонных элементаў для пабудовы кароўнікаў і другіх гаспадарскіх будынкаў.

(Працяг на стар. 4)

## ДАЎГАВЕЧНАСЦЬ СТАРЫХ ФОРМ

Кажуць, што народнае мастацтва не мае свайго аўтара, што аўтарам яго з'яўляецца ўвесь народ. Гэта значыць, што не вядома, хто выдумаў акрэслены ўзор дывана, каму першаму прыйшла ў галаву такая ці іншая вышыўка, не вядома нават, хто паставіў каплічку ля дарогі і павымалёўваў паразвешваныя ў ёй іконы, выражаючы на свой спосаб свае пачуцці. Не вядома — не толькі таму, што народныя мастакі — людзі скромныя, не ведалі гэтай славы, якою цешацца сённяшнія аўтары, але і таму, што да стварэння новых мастацкіх вартасцей чуўся паклікáным кожны жыхар традыцыйнай вёскі. Кожная жанчына была на свой спосаб мастачкай, кожная чулася паклікáнай да таго, каб да вядомага ёй узору дадаць нешта ад сябе, палепшыць, удасканаліць, ці проста выказаць у ім свой уласны настрой, сваё адчуванне прыгажосці. Меркай гэтага ўкладу мералася і ранга чалавека ў вясковай грамадскасці з-пад паўстагоддзя. У даўнейшай вёсцы працавітасць і знаходлівасць жанчыны цанілася больш за ўсё, а працавітасць — гэта горбы рознакаляровых дываноў, ручнікоў і кашуляў.

Зараз жанчыны многіх весак Гайнаўшчыны і Бельшчыны ткуць не менш, чым іх бабкі і прабабкі, ткуць днямі і начамі, памагаюць ім у гэтым іх мужы і дзеці, ткуць адно і тое ж самае паводле ўстаноўленых спецыялістамі ад народнага мастацтва ўзораў, ткуць не таму, што хочуць паказаць, якія яны здольныя і працавітыя, што ім падабаецца іх палатно, але таму, што патрэбныя ім грошы. І ніхто з сялян сёння

(Працяг на стар. 4)



# ДЭ ГОЛЬ застаецца рэалістам

Канцлер ФРГ Эрхард быў госцем прэзідэнта Францыі дэ Голя. Хоць размовы вяліся ў строгай таямніцы, у друк трапілі весткі, што Эрхард моцна нагаварваў дэ Голя падтрымаць бонскую канцэпцыю ў справе «аб'яднання» Германіі і зрабіць з бонскага рэвізіянісцкага ўступнага праекта ўмову для змяншэння напружання ў Еўропе. З аптымістычнага заяўлення канцлера ФРГ пасля прыезду ў Бон вынікала, што гэтыя размовы зліквідавалі супярэчнасці паміж Заходняй Германіяй і Францыяй. Гэта значыць, што і ў справе «аб'яднання» наступіла збліжэнне, як гэтага хацеў урад з Бон.

Прайшло 10 дзён і аказалася, што вялікія надзеі Эрхарда не апраўдаліся. Дэ Голь развеяў іх у час нядаўняй прэс - канферэнцыі. Прэс-канферэнцыя была для бонскага ўрада моцным ударам, які яшчэ мацней адчуўся і таму, што іменна ў гэты дзень Эрхард святкаваў 68 гадавіну з дня нараджэння. Сенсацыйны друк выкарыстаў гэтае супадзенне на розныя колкія каментарыі і загалоўкі. Калі я ўспамінаю аб колкасцях, дык толькі для таго, каб падкрэсліць, наколькі рэалізм дэ Голя падабаецца простым французам і грамадзянам іншых заходніх краін.

Звернемся да канкрэтных фактаў. Дэ Голь вельмі рэдка згаджаецца на прэс-канферэнцыі. Гэта яшчэ больш падкрэслівае іх значэнне. Апошняя прэс-канферэнцыя была тым больш значнай, што дэ Голь не зрабіў на пачатку ніякага заяўлення, як рабіў гэта раней, але адразу адказваў на пытанні журналістаў. Адказы былі вельмі шчырыя, без дыпламатычнай вуалі. Дэ Голь пачаў ад прыпамінання гісторыі нямецкага экспасіянізму за апошнія дзесяцігоддзі, калі еўрапейская зямля гарэла пад ботамі юнкерскіх ваяк. Экскурсія ў мінулае паслужыла яму для пацвярджэння небяспекі, — што добра разумеюць народы Усходняй і Заходняй Еўропы, — якую нясуць ім імперыялістычныя сілы ФРГ. Прэзідэнт Францыі проста сказаў, што рост гаспадарчай, ваеннай і палітычнай магутнасці «часта выклікае падазрэнні і непакой».

У такіх умовах дэ Голь прызнаў неадваротныя факты, наступіўшыя адразу пасля вайны, як элемент стабілізацыі міру ў Еўропе. Дэ Голь назваў пазітыўнай з'явай факт «змушэння пераможаных падпарадкавацца, прызнаць неадваротным фактам аддзяленне ранейшай Усходняй Прусіі, Слёнска... канец аншлюса Аўстрыі і пратэктарату над Чэхаславакіяй, падзел Германіі на зоны і статут Берліна». У сваім рэалізме дэ Голь пайшоў яшчэ далей, у будучыню, што асабліва непрыемна для бонскага ўрада. Прэзідэнт Францыі выходзіць з рэалістычнай прадпасылкі аб існаванні двух нямецкіх дзяржаў, нягледзячы на тое, што яму не падабаюцца існуючыя ў ГДР адносіны. Але іменна таму яго рэалізм яшчэ большы. Ён бачыць аб'яднанне Германіі не як пачатак змяншэння напружання ў Еўропе, а як вынік узросту даверу, які павінна стварыць ФРГ, прызначаючы, напрыклад, сапраўды існуючыя вакол сябе ўмовы.

Доўгі працэс аб'яднання, па думцы дэ Голя, можа быць толькі вынікам «паразумення і аб'яднанага дзеяння народаў, якія заўсёды былі, ёсць і будуць непасрэдна зацікаўлены лёсамі іх нямецкага суседа, г. зн. народаў Еўропы».

У адным толькі мы не можам згадзіцца з прэзідэнтам Францыі. Ён прыпісвае сацыялістычным краінам падтрымліванне «халоднай вайны» нібы пад маркай небяспекі адраджэння заходнегерманскага мілітарызму. Гэта неапраўданы і нелагічны закід. Бо іменна ж сацыялістычныя краіны высоўваюць найбольш канкрэтныя прапановы ў справах германскай праблемы і агульнай бяспекі ў Еўропе. Не ўлічваючы гэтай дробязі, усе іншыя ўвагі дэ Голя на канферэнцыі, як аб Германіі, так і аб ААН ці заходнееўрапейска-амерыканскіх адносінах, трэба прызнаць, былі пакіраваны розумам і рэалізмам, былі дастойны галавы дзяржавы, якому блізкія сэрцу справы мірнай будучыні свету.

І няма чаго пераймацца, што бонскія палітыкі з-пад знаку рэвізіянізму і рэваншызму маюць іншую думку аб гэтым.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**




### З ДУМКАЙ АБ ГАДАВОЙ ДЗЕЙНАСЦІ

У апошнім пасяджэнні прэзідыума Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства ўзялі ўдзел члены рэвізійнай камісіі ГП Піліп Кізевіч і Янка Грэсь, інструктары ГП, старшыня Сакольскага аддзела — Віталі Чыжэўскі і сакратар Сямяціцкага аддзела — Сяргей Крэйза.

Галоўнымі справамі пасяджэння былі: справаздача з дзейнасці БГКТ у 1964 годзе і план дзейнасці БГКТ на 1965 год.

Са справаздачным дакладам выступіў сакратар ГП Уладзімір Юзвюк. Выступленні прысутных паказалі, што наша таварыства, усе яго аддзелы свядомыя сваіх заданняў, што беларуская арганізацыя значна ўзмоцнілася арганізацыйна, што аўтарытэт яе і ранга сярод насельніцтва значна ўзрасла, што культурна - асветная дзейнасць у 1964 годзе вялася значна лепш і эфекты яе непараўнальна большыя ад мінулых год.

Праўда, ёсць таксама і сур'ёзныя недахопы. Да іх перш за ўсё залічыць трэба павольны рост колькасці членаў і вялікае адставанне ў аплачванні членскіх складчын.

Сярод аддзелаў выдзяляецца ў працы Сямяціцкі, а адставаў у мінулым годзе аддзел у Беластоку, у якім за справаздачны перыяд змянілася 3-ох інструктараў і старшыня. У Саколцы і Бельску значна шырэй разгарнулі сваю дзейнасць гарадскія гурткі, якія ў мінулых гадах слаба працавалі. У Варшаўскім аддзеле палепшылася аплачванне членскіх складчын. Дрэнна толькі тое, што заняпала лекцыйная дзейнасць.

Пашыранае пасяджэнне прэзідыума ГП дакладна абмеркавала план працы на 1965 год. Бягучы год нясе з сабою дзве вялікія кампаніі, а менавіта: 1) выбары ў сейм і ў рады нарадовыя, 2) 40-годдзе заснавання Беларускай работніцка - сялянскай Грамады. Наша арганізацыя шырока разгорне ў гэтым часе прапагандавую работу. Вялікую ролю ў гэтым будуць спаўняць лектары БГКТ і гутаркі па радыёвузлах. Прадбачана сарганізаваць 160 урачыстых пасяджэнняў з дакладам аб Грамадзе спалучаных са спатканнямі з грамадаўцамі і з мастацкай часткай. Кожны аддзел арганізуе фестын пад знакам 40-годдзя Грамады. У «Ніве» будуць друкавацца ўспаміны грамадаўцаў. Эстрада «Лявоніха» дасць для насельніцтва ў бягучым годзе больш як 200 канцэртаў. Будзем далей збіраць экспанаты матэрыяльнай культуры да беларускага музея. Усе аддзелы арганізуюць дэкламатарскія конкурсы беларускага слова, конкурс на беларускую песню і іншыя конкурсы. Як штогод, так і ў бягучым годзе будуць праводзіцца элімінацыі самадзейных мастацкіх калектываў. Запланавана таксама сарганізаваць на некалькі дзён курсы для прадстаўнікоў паасобных гурткоў, якія дапамогуць лепш працаваць у сваім асяроддзі.

Вось некаторыя з асноўных дзялянак нашай дзейнасці ў бягучым годзе.

Успомненае пасяджэнне займалася таксама арганізацыйна - кадравымі справамі. Найважнейшая з іх — гэта недахоп штатных працаўнікоў у ГП. Ужо даўжэйшы час у ГП няма двух кіраўнікоў: арганізацыйнага і культурна - асветнага. Гэта мае адмоўны ўплыў на аператыўную працу БГКТ.

### КАБ ТОЛЬКІ ВЫКАНАЦЬ

Апошняе пасяджэнне праўлення гарадскога аддзела ў Беластоку зацвердзіла план працы на 1965 год і выпрацавала заданні на І квартал бягучага года. Запланавана перад кожным фільмам арганізаваць гутаркі на розныя тэмы. У кожную сераду аддзел будзе арганізаваць усялякія спатканні. Праўленне аддзела пастанавіла склікаць гарадскую канферэнцыю на 30 сакавіка. Падрабязна аб гадавым плане гарадскога аддзела ў Беластоку раскажам чытачам у наступным нумары.

**М. Х.**

## ДЛЯ АШЧАДНЫХ І СТОЙКІХ

# 12 x 5 x 50 = 3500

Што за дзіўныя вылічэнні? Калі памножыць гэтыя лікі звычайна, як усіх нас вучылі ў пачатковай школе, атрымаецца роўны вынік: 3000. **Чаму тады тут 3500?** Бо гэта сапраўды не зусім звычайнае множанне. **Так множаць у ПКО. Трэба толькі на спецыяльную кніжку класці кожны месяц па 50 злотых.** Лёгка аблічыць, што пасля пяці гадоў такога сістэматычнага адкладвання пяцідзесяці залатовак назбіраецца 3000 злотых, а ПКО далажыць табе ў падарунку яшчэ паўтысячы злотых прэміі. Калі вытрымаеш далей і праз наступныя 5 год будзеш класці штомесяц па 50 злотых, ашчаднасці твае разам з прэміяй ПКО ўзрастуць да 8 250 злотых. **Пасля 20-ці год сістэматычнага адкладвання пяцідзесяці залатовак прэмія ПКО і ўласныя ашчаднасці амаль зраўняюцца: уласныя ашчаднасці — 12.000 злотых, прэмія ПКО — 11.450 злотых.**

Гэтая форма ашчаднасці яшчэ не паспела закараніцца сярод насельніцтва. Ашчадную кніжку, прэміяваную кожны 5 год, можна залажыць толькі ў ПКО асабіста, або высылаючы па пошце грошы, патрабуючы карэспандэнцыйна, каб ПКО выпісала падобную кніжку на ваша прозвішча.

Можна, зразумела, класці штомесяц і па 100 злотых, і па 200 злотых. У першым выпадку пасля 10-ці год разам з прэміяй ПКО назбіраецца ў вас 16.500 злотых, у другім выпадку 33.000 зл. Пасля 20-ці год, калі адкладалі штомесяц 100 зл., уласныя ашчаднасці — 24.000 зл. і прэмія ПКО — 22.900 зл., разам назбіраецца вам 46.900 зл; калі клалі па 200 злотых, ПКО ахвяруе вам скромна 45.800 зл. прэміі, а вашыя ашчаднасці разам складуць суму 93.800 злотых.

Ашчадныя кніжкі ПКО прэміяваныя кожны пяты год асабліва вялікую выгоду ствараюць для тых прадбачлівых бацькоў, якія неяк талкова хочуць забяспечыць першыя, заўсёды цяжкія, гады самастойнасці сваіх дзяцей. Усе, хто працуе ў дзяржаўных ці спулдзельчых установах, атрымоўваюць на кожнае дзіцё так званы сямейны дадатак. **Хопіць штомесяц гэтыя грошы пакласці на ашчадную кніжку, а пасля 20-ці год, калі сын захоча жаніцца ці дачка выходзіць замуж, у іх будзе ўласны капітал, скажам, на пакупку спулдзельчай кватэры.**

Калі ўжо гаворым пра ашчаднасць і пра ашчадных, варта ведаць, што ў Беластоцкім ваяводстве ёсць зараз амаль 300 тысяч уласнікаў кніжак ПКО. Здавалася б многа, але цешыцца, на жаль, няма чым. Толькі кожны чацвёрты жыхар ваяводства сістэматычна аддае свае ашчаднасці ў ПКО, а найменш пераканання да гэтай установы маюць сяляне. **А шкада, бо вось ПКО як належнасць па прычыне апрацэнтавання за мінулы год ужо дапісала да ашчадных кніжак сваіх кліентаў 13 мільёнаў злотых і яшчэ на дапісанне чакае 18 мільёнаў. Гэта прэмія для стойкіх.**

**В.Р.**

## ПРАВАСУДДЗЕ ПА-БОНСКУ




**Пракурор-абвінаваўца: — Следствам устаноўлена, што зверскія забойствы ў канцэнтрацыйным лагеры сапраўды мелі месца і оберштурмфюрэр Грубке, сёння наш паважаны дэпутат, сапраўды даваў загады аб гэтым. Але сам асабіста ён забойстваў не ўчыняў. Невінаваты ў іх і ўнтэр Пупке, сёння наш паважаны грамадзянін, які толькі нацкоўваў сабак на зняволеных па загаду оберштурмфюрэра. Ва ўсім, такім чынам, вінаваты сабака, які і павінен панесці пакаранне па ўсёй строгасці закону!**

## БЕЛЬШЧЫНА ДУХАМ НА ПАРОЗЕ

Грунт для дзейнасці ППР у Бельскім павеце (тут будзе гутарка ўвесь час аб даўнейшым Бельскім павеце, да яго падзелу) быў падрыхтаваны ў час міжваенны, калі КПЗБ праводзіла тут сваю вялікую рэвалюцыйную работу. Тэрыторыя Бельскага павета была насычана духам рэвалюцыі, мела выпрабаваных людзей, прайшоўшых школу ў Картуз-Бярозе.

Да будучых даследчыкаў належыць адказ на пытанне, чаму ў час акупацыі на Бельшчыне не дзейнічала канспірацыйная ППР. У кожным выпадку — супраціўленне прыняло тут іншыя і як жа моцныя формы — шырокі партызанскі рух і антыфашысцкія камітэты.

Даўнейшыя дзеячы КПЗБ былі тымі першымі, хто пасля вызвалення Бельска 30 ліпеня 1944 года падняла і рэалізавалі ідэю ППР.

На іншых тэрыторыях краіны ў час акупацыі існавалі канспірацыйныя Гмінныя рады, на Бельшчыне не было іх, таму першым заданнем народнай улады былі арганізацыйныя справы.

Гісторыя ўзнікнення арганізаванай ППР коратка выглядае так. У жніўні 1944 года ўтварыўся Акруговы Камітэт ППР у Беластоку, які даверыў тав. Васілю Васілюку арганізаванне Павятовага Камітэта ў Бельску. Тав. Васілюк — былы дзеяч КПЗБ адразу навязаў кантакт з тымі першымі: Мікалаем і Яфімам Парфенюкамі, Тамашам Грабаром, Антонам Нікановічам, Якубам Базылюком, Міхалам Пракапчуком, Міхалам Джэвецкім, які быў упаўнамочаным ПКВН да арганізавання адміністрацыйнай улады на Бельшчыне.

Першы неафіцыйны сход адбыўся на кватэры Мікалая Парфенюка, а 5 лістапада 1944 года на другім сходзе быў створаны Павятовы Камітэт ППР. І-шым сакратаром выбралі Васіля Васілюка, ІІ-ім — Мікалая Парфенюка.

Для пацверджання сказанага, што Бельскі павет меў адпаведны грунт і людзей, якіх патрабавала народная ўлада, дадам, што ячэйкі ППР на Бельшчыне арганізаваліся самачынна яшчэ да ўтварэння Павятовага Камітэта. Іменна ў самым Бельску, Цеханоўцу, Гайнаўцы, Макаўцы так было. У снежні ўтвараецца ячэйка ППР у Кляшчэлях, Якуб Базылюк тады ж арганізуе ячэйку ў вёсцы Залешаны і г.д. і г.д. Пачатак, цяжкі пачатак, быў зроблены.

# ПОДЗВІГ

## апавяданне з часоў вайны

Невялічкі атрад асцярожна прабіраўся між алешніку і лазняку. Зусім блізка мільгалі агні вадакачкі, крычалі паравозы на станцыі Палонка.

— Ну і завёў жа ты нас! — бурчаў Лукіч. — У самае логава...

— Немцы тут менш за ўсё нас чакаюць. І ахова слабая, — весела адказаў маладзенькі кулямётчык Косця.

Каб трапіць на чыгуначнае палатно, трэба было перайсці дарогу, якая ішла ад станцыі да вадакачкі. Вадакачка стаяла на ўзгорку, і з яе зручна было паліваць свінцовым дажджом увесь алешнік.

Партызаны асцярожна выбраліся на дарогу і адзін за адным хутка нырнулі ў гушчар. Стараючыся не шастаць, годлем, пачалі прабірацца да чыгункі.

— Чыгунка, — прашаптаў Лукіч. Перад партызанамі ўзнік насып, на ім паблісквалі і хісталіся агеньчыкі — хадзілі вартавыя. Станцыя была адтуль недалёка, і вартавыя не вельмі стараліся аглядаць рэйкі.

Косця з Лукічом хутка ўзабраліся на насып. Косця выкапаў пад рэйкай ямку і заклаў зарад, а Лукіч асцярожна разматаў шнур, спусціўся з адхону і залёг у кустах. За ім скаціўся і Косця. Другая група заклала зарады і таксама залягла ў кустах.

Праз нейкі час Косця прыслухаўся і шапнуў Лукічу:

—Паравоз штурхае вагоны з пяском.

— Калі «пясочніца» ідзе, то і цягнік хутка будзе, — адказаў Лукіч.

«Пясочніца» прагрукатала міма, і зноў стала ціха. Толькі час ад часу чулася страляніна.

— Немцы патроны марнуюць, — прабурчаў партызан, які ляжаў за невялікім пяньком.

— Смерць сваю чуюць, — адказаў Лукіч.

«А добра, — аддаўся марам Косця. — Пасля вайны я скончу інстытут, буду аднаўляць гарады і вёскі, каб наша Радзіма на злосць ворагам стала яшчэ лепшай, каб яны глядзелі на нашы квітнеючыя гарады і вёскі, на багатыя нівы, на новыя магутныя заводы і фабрыкі, на нашых гераічных людзей, якія змаглі ўсё гэта ўзняць з руін, і каб дайшло да іх розуму, што нас не пакарыць.
— І ён да болі сціснуў у руках шнур.

У гэты момант цішыню разарваў гудок паравоза, а праз некалькі хвілін на рэйкі ўпаў прамень пражэктара.

Гул нарастаў і нарастаў. І вось пярэднія вагоны з пяском пранесліся над мінай. Косця штосілы пацягнуў шнур. Два магутныя выбухі скаланулі паветра, слупы агню падняліся ўгору. Зарыва азарыла неба. Атрад быў ужо далекавата ад чыгункі, калі над галавамі засвісталі кулі: гэта ўдарылі кулямёты з вадакачкі і станцыі.

— Хутчэй, хутчэй! — падганяў Лукіч, але паблізу ўжо трашчалі матацыклы. Галасы ворагаў чуліся ўсё бліжэй.

— Адыходзьце. Я прыкрыю вас! — крыкнуў Косця і залёг за кулямёт. Адшпіліў ад пояса гранаты, паклаў каля сябе.

З кустоў выскачыў цыбаты немец. Косця сустрэў яго куляй. Фашыст узмахнуў рукамі і ўпаў на спіну. Астатнія, што з'явіліся пасля, залеглі. Затрашчалі аўтаматы. Косця заўважыў, што некалькі немцаў хутка паўзуць цераз балота, размахнуўся і шпурнуў у іх бок гранату. Рашуча загаварыў яго кулямёт. Але ненадоўга; хутка скончыліся патроны.

Немцы акружылі партызана і пайшлі на яго.

— Жывым не возьмеце! — крыкнуў Косця і ўсадзіў сабе ў грудзі фінку...

Разведчыкі прынеслі ў атрад цела Косці. Магілу адважнаму партызану выкапалі на невялічкай палянцы каля ракі. На ўзгорку раслі бярозы і маленькія елачкі, высокая трава хвалямі гойдалася на ветры, а над белымі вяночкамі рамонку і сінімі званкамі мітусіліся разнакаляровыя матылькі, цвыркалі конікі і гулі пчолы.

Я гляджу на магілу і думаю: «Колькі такіх магіл ёсць на нашай зямлі! І калі кожны з нас даведаецца і раскажа гісторыю хаця б аднов з іх, то перад намі паўстане летапіс бяспрыкладнай мужнасці нашых бацькоў, якія змагаліся за нашу светлую будучыню».

І мы заўсёды павінны памятаць пра гэта.

**Лена Руцкая**










ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 7 (368) 14 лютага 1965 года



А ці ёсць у вашай вёсцы такая горка? Напішыце нам, як вы катаецеся з горкі. Ці так адважна, як хлопцы з Крынак?

## КВАДРАТЫ ВАКОЛ КРОПАК



На паперы ў клетачку пастаў 10 кропак, як паказана на малюнку. Паспрабуй, не адрываючы алоўка ад паперы, вакол кожнай кропкі абрысаваць квадрат. Двойчы на адным і тым жа месцы лінію весці нельга. Усе квадраты павінны быць роўныя паміж сабой.

## ПАГЛЯДЗІ ЎВАЖЛІВА

**Чым адрозніваюцца гэтыя малюнкі?**





## Я больш не буду

Мама Мышка казала свайму маленькаму мышаняці:

— Не лезь туды, бо разаб'еш слоік варэння!

І чула ў адказ:

— Я больш не буду.
— Не дурніся, разаб'еш талерку!
— Я больш не буду.
— Не разлівай ваду!
— Я больш не буду.
— Не лезь лапамі ў варэнне!
— Я больш не буду.
— Не лезь да пліты, апячэшся!
— Я больш не буду!
— Не разлівай ваду!
— Я больш не буду.
— А разбіў - такі талерку!
— Я больш не буду.

І ўсё пачыналася ад самага пачатку.

— Не высоўвайся з норкі, бо кот схопіць.

Толькі хацела мышаня піснуць: «Я больш не буду», як страшная шэрая кашэчая лапа схапіла яго за шкірку і пацягнула...

Якое шчасце, што мама-Мышка трымала ў той час у руках гарачую качаргу. Прыклала яна качаргу да той кашэчай лапы, кот мяўкнуў ад болю і перапалоху, выпусціў малое мышаня і ўцёк. А то магла б вельмі смутна скончыцца гэтая гісторыя.

Вось што сярод мышэй бывае. А як сярод дзяцей? Бывае такое ці не?

Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Zorka"

# СМЕШНАЯ ГІСТОРЫЯ

Пеця быў не такі ўжо маленькі хлопчык. Яму было чатыры гады. Але мама лічыла яго зусім маленькім дзіцяткам. Яна карміла яго з лыжачкі, гуляць вадзіла за ручку і раніцай сама яго апранала.

Аднойчы Пеця прачнуўся на сваім ложку і мама пачала яго апранаць. Вось яна апранула яго і паставіла на ножкі каля ложка. А Пеця раптам упаў.

Мама думала, што ён жартуе, і зноў паставіла яго на ножкі. Але ён зноў упаў.

Мама здзівілася, а тата сказаў:

— Наш хлопчык, мабыць, захварэў. Ён, здаецца, учора цукеркамі аб'еўся.

Паклікалі доктара.

Прыходзіць доктар у акулярах і з трубкай і гаворыць Пецю:

— Што гэта за навіна? Чаму ты падаеш?

Пеця гаворыць:

— Не ведаю, але трошкі падаю.

Доктар паслухаў яго праз трубку і гаворыць:

— Дзіця зусім здаровае. Дзіўна, чаму ён у вас падае. Ану, пастаўце яго зноў на ножкі.

Мама хутка апранае хлопчыка і ставіць яго на падлогу. А доктар надзявае акуляры на нос, каб лепш бачыць, як хлопчык падае.

Толькі паставілі Пецю на ножкі, і раптам ён зноў упаў.

Доктар паглядзеў і гаворыць:

— Я не ведаю. Клічце іншага доктара.

Тата пайшоў званіць па іншага доктара, а ў гэты момант да Пеці ў госці прыйшоў маленькі хлопчык Коля. Коля паглядзеў на Пецю, засмяяўся і гаворыць:

— А я ведаю, чаму ў вас Пеця падае.

Доктар гаворыць:

— Глядзіце, які знайшоўся карапуз, ён лепш за мяне ведае, чаму дзеці падаюць.

Коля гаворыць:

— ПагляДзіце, як Пеця ў вас апрануты. У яго адна штаніна вісіць, а ў другую абедзве нагі засунуты. Вось таму ён і падае.

Усе заахалі і заохалі.

Пеця гаворыць:

— Гэта мяне мама апранала.

— Раніцай я вельмі спяшалася і таму так няправільна яму нагавічкі надзела, — апраўдваецца мама.

Коля гаворыць:

— А я заўсёды сам апранаюся, і ў мяне такіх смешных гісторый з нагамі не здараецца. Дарослыя заўсёды нешта паблытаюць.

— Цяпер я таксама буду заўсёды сам апранацца, — гаворыць Пеця.

Тут усе засмяяліся. І доктар засмяяўся. Ён з усімі развітаўся, і з Колем таксама, і пайшоў па сваіх справах.

Тата пайшоў на працу, мама — на кухню.

А Коля з Пецем засталіся ў пакоі. І пачалі гуляць у цацкі. А на другі дзень Пеця сам надзеў свае нагавічкі, і ніякіх смешных гісторый з ім больш не здаралася.

**М. Зошчанка**



# Вучнёўскае паабеддзе

**На невялікім узгорку за вёскай узвышаецца цагляны будынак школы. Свежаўпарадкаваны панадворак, новая агарожа — сетка. Са школьнага вестыбюля даносяцца тоненькія дзіцячыя галасы — першакласнікі спяваюць і танцуюць, рыхтуюцца да чарговай урачыстасці. У адным з класных пакояў ідуць заняткі харавога гуртка. Настаўніца Крыстына Гэмбала развучвае з гарцэрамі новую песню. Танцавальны гурток у школе налічвае 32 асобы. Вучні ўжо танцуюць кракавяк, вальс, лявоніху і шмат іншых танцаў.**

**У адным з суседніх класаў збіраецца на заняткі фатаграфічны гурток. Пры дапамозе настаўніка Ігната Рошчанкі рабяты вучацца мастацкім вокам фотааб'ектыва глядзець на свет. Галоўнае — паспрабаваць самому фатаграфаваць. Тады ўжо чалавека ніколі не пакіне мара мець фотаапарат і рабіць сапраўды добрыя здымкі.**

**У настаўніцкім пакоі кіраўнік школы Міхась Кісялеўскі паказвае нам гарцэрскія дакументы. Вось на стале ляжыць копія ўрачыстага абавязацельства.**

**— Усё, што абавязаліся зрабіць, выканалі, — з гонарам за сваіх выхаванкаў гаворыць кіраўнік школы.**

**Пасля глыбейшай знаёмасці з гарцэрскімі справамі пераконваемся, што гарцэры ў Дашах умеюць выбраць з шэрагу патрэбных спраў найважнейшыя. У дакументах чытаем: зрабілі лавачкі і засадзілі кветкі ля аўтобуснага прыстанку і перад школай; памаглі абгароджваць школьны панадворак, залажылі гадавальнік дрэў, выступілі з канцэртамі ў в. Малочкі, Грузка і некалькі разоў у сваёй вёсцы, памаглі пры пасадцы лесу. Зарobленыя грошы выкарысталі на патрэбы школьных гурткоў.**

**Такімі і яшчэ многімі іншымі справамі жывуць вучні ў Дашах. Кожнае школьнае паабеддзе бывае рознае. Самае галоўнае ва ўсім гэтым: за цікавым заняткам адпачыць ад урокаў, выявіць тое, што нас больш за ўсё цікавіць. Адно або два паабеддзя ў тыдзень вучні бываюць у школе, а ў іншыя дні дапамагаюць маме і тату па гаспадарцы. Пасля двухгадзіннага адпачынку са свежай галавой сядаюць вучыць урокі.**

**Так цікава і карысна ў Дашах арганізаваны час пасля заняткаў.**

**Я. Чэрнякевіч**



# ПРЫЕМНАГА АПЕТЫТУ

У французаў ёсць прыказка: «Апетыт прыходзіць у час яды».

Як і большасць народных прыказак, яна грунтуецца на жыццёвым вопыце: пах і выгляд смачнай ежы сапраўды павялічваюць апетыт.

Вялікі рускі вучоны Іван Пятровіч Паўлаў растлумачыў, чаму гэта так бывае.

Ты ведаеш па сабе, як «цякуць слінкі», калі бачыш смачную страву.

Але не ўсякая ежа дзейнічае на арганізм аднолькава.

Чым прыгажэй выглядае талерка з ядой, чым смачней пахне ежа, тым больш актыўна выдзяляецца сок, тым лепш будзе пераўтраўлена тое, што ты з'ясі.

І клопаты аб гэтым таксама знайшлі сваё адлюстраванне ў правілах паводзін за сталом.

**Чаму не трэба крышыць на кавалкі катлету або сырнік?**

Не толькі таму, што раскрышаная ежа хутчэй стыне і робіцца нясмачнай. Выгляд размазанай па ўсёй талерцы катлеты не вельмі апетытны.

**Чаму лічыцца непрыгожым выплёўваць што-небудзь, нават костачкі ад кампоту, проста на талерку?**

Таму, што гэта ніяк не выклікае апетыту ў твайго суседа па стале.

**Чаму не рэкамендуецца крытыкаваць пададзеную страву і гаварыць, што, па-твойму, яна нясмачная? Чаму трэба даядаць усё пакладзенае да канца і не пакідаць на талерцы?**

Таму, што гэта не толькі крыўдна для гаспадыні, але і можа адбіць жаданне есці ў суседзяў.

Выхаваны чалавек будзе есці кожную страву, якую яму прапануе гаспадар.

Калі французы заснавалі сваю першую калонію ў Паўночнай Амерыцы, французскі губернатар запрасіў на званы абед двух правадыроў індзейскага племені іракезаў.

Ведаючы высакародную даверлівасць індзейцаў, якія яшчэ не паспелі распазнаць крывадушнасць і жорсткасць заваёўнікаў, ад'ютант губернатара вырашыў пасмяшыць сяброў і паздзекавацца з іракезаў. На іх вачах ён густа намазаў гарчыцай кавалак хлеба і зрабіў выгляд, што з асалодай праглынуў ласунак.

Індзейцы падумалі, што гэта любімая ежа белых, і таксама намазалі гарчыцай свой хлеб. Але ад першага ж адкушанага кавалка ў іх заняло дух і на вачах выступілі слёзы. Аднак іракезы нічым не выдалі сваёй агіды і мужна даелі хлеб да канца. Яны не хацелі пакрыўдзіць гаспадара, адмовіўшыся ад прапанаванага пачастунку.

Так «дзікія» індзейцы далі ўрок далікатнасці і вытрымкі «культурнаму» нятодніку.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Дарагая «Зорка»!

Нятледзячы на тое, што мы ўжо скончылі пачатковую школу, хацелі б, каб Ты, «Зорка», пазнаёміла нас з сябрамі або сяброўкамі другіх вёсак. Вельмі цябе просім, каб нашы адрасы былі надрукаваны ў кутку «пазнаёмімся». Маем мы па 17 год. Вучымся крою і шыцця, займаемся філатэлістыкай, любім беларускія байкі, песні і творы беларускіх пісьменнікаў. Найбольш нас цікавяць маторы. Наш адрас:

**Маня Андрыюк, Аня Краснадэмская, Валя Харытанюк і Валя Гаўрылюк,** вёска Паўлы, пошта Рыбалы, павет Бельск.



# *Для самых маленькіх*

# ЗІМОВЫ ЖАРТ

Бяжыць з канькамі курыца,
На лыжы стаў гусак.
І снежным пылам курыцца
Зялёна-белы парк.

Стары казёл не ўпарціцца,
Ляціць з гары:
— Эх-гэй!
І качкі - каракаціцы
Гуляюць у хакей.

І лепіць бабу смешную
Вусаты кот Васёк.
Яго закідаў снежкамі
Адважны пацучок.

Люблю я дні марозныя!
І слухаю сама,
Як небыліцы розныя
Расказвае зіма.

**Эдзі Агняцвет**

# ТРЫБУНА чытачоў

## Аб сельскагаспадарчым гуртку

Каб дабіцца багатых ураджаяў, трэба як найхутчэй выкарыстоўваць сельскагаспадарчыя веды і механізаваць апрацоўку зямлі. Таму ў 1959 годзе ў Новым Корніне арганізаваўся сельскагаспадарчы гурток. Узначальвае яго прэзэс Уладзімір Куптэль. Дыспазітарам працуе Мікалай Пракапюк, а скарбнікам — Васіль Гацута. Гурток мае два трактары і дзве малатарні. Акрамя гэтых машын гурток мае яшчэ сеўнікі, касілкі, снопавязалкі, рухавікі і апырсківачы. Трактарыстамі працуюць Міша Мартынюк і Янка Сельвесюк. Яны на сваіх трактарах праз лета выпрацавалі блізка 1000 гадзін. І так, працы трактарам хапае круглы год. Сельгаступрацаваў грамадскім чынам пры пабудове дарогі з Новакорніна да Трывежы. У мінулым 1964 годзе гурток выпрацаваў 100 тысяч злотых даходу. Адно толькі дрэнна, што няма яшчэ гаражу на сельскагаспадарчыя машыны.

**Янка Мартынюк**
вёска Новакорніна

## Дасягненні малачарні

Нядаўна ў Бельску адбыўся сход членаў малачарскай спулдзельні — дастаўшчыкаў малака. Інструктар спулдзельні грам. Фалькоўскі паінфармаваў прысутных, што малачарня значна перавыканала планы 1964 года і заняла ў Беластоцкім ваяводстве ІІ-ое месца. І так, чыстага даходу атрымала яна два мільёны злотых. Малака закуплена на 1 мільён літраў больш, чым гэта было ў плане.

**Янка Ігнатовіч**
Відава

## СІГНАЛ ТРЫВОГІ НЕ ХВАЛЮЕ

Пажарная каманда ў Бандарах існуе ад 1959 года. Да гэтага часу няма належнай рамізы і няма парадку вакол яе. Начальнікам з'яўляецца Уладзіслаў Баршчэўскі, а механікам — Янка Ольтух. Але не адзін з іх не дбае пра парадак. Шлаўхі ляжаць на мокрай падлозе. Пасля кожнага дажджу з-за вады і балота цяжка дайсці да рамізы. Пажарніцкі матор таксама ніколі не ачышчаны. А калі сірэна паведамляе аб трывозе, дык некаторыя пажарнікі, хаця і чуюць, але не спяшаюцца. Часам сірэна вые з гадзіну, і ніхто не прыходзіць. Тады ідуць пасланцы да пажарнікаў. Адным словам, пажарнікі не выконваюць сваіх абавязкаў.

**Чытач з Бандароў**

## „СУД", ГУМАР І ПЕСНІ

Пад вечар, 17 студзеня, каля нашай святліцы ў Дубічах Царкоўных было людна і шумна. Усе цісනуліся да дзвярэй, дзе прадаваліся білеты на выступленні нашых самадзейнікаў. Зала была запоўнена. Прыбыло 140 чалавек. Выступленні пачаліся камедыяй «Суд». Самадзейныя артысты нягледзячы на тое, што моцна хваляваліся, ніядрэнна выступалі. Пасля пастаноўкі спявала харавая група і выступалі дэкламатары. Кожны нумар нагараджаўся прысутнымі доўгімі воплескамі. Праграма працягвалася 2 гадзіны. У 19 гадзін распачалася забава на білетах. Іграў аркестр з Гайнаўкі. Арганізатарам моладзі быў Мікола Чыквін. Зароблены грошы будуць прызначаць на пабудову купальнага басейна.

**Мікола Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## КАБЫЛЯНКА

Хутары вёскі Кабылянка пачынаюцца ад Міхалова і разцягваюцца пад Азяблы. Назва вёскі Кабылянка, як кажуць старэйшыя людзі, паходзіць ад таго, што калісьці жыў тут пан, які гадаваў многа коней.

Дамоў у вёсцы 31. Большасць — гэта дамы драўляныя, крытыя саломай. Людзі займаюцца гаспадаркай, толькі нешматлікія працуюць у гарадах.

У Кабылянцы няма гуртка БГКТ, святліцы, школы, нават няма электрычнага святла. Ёсць толькі радыёкропкі і бібліятэчны пункт, які вядзе Рэгіна Турасінськая. Кожны вечар у кабылянскай бібліятэцы шмат людзей. Яны чытаюць часопісы, кніжкі і «Ніву». У Кабылянцы жывуць людзі дружныя і здольныя. Напрыклад, Толік Гарэнюк зрабіў вятрак, які служыць да асвятлення будынкаў, а таксама прыводзіць у рух машыны. Ёсць і некалькі муляроў, дзякуючы чаму ўзрастае колькасць мураванак. Цяпер ідуць намаганні, каб падрамантаваць будынак, у якім мае быць святліца.

**Мікола Ялінік**
Міхалова

## Цільвіцкі Двор — зусім не двор

Недалёка Беластока
Ракі Супраслі — Істока,
Дзе канчаецца сінь-бор
Вёска ёсць — Цільвіцкі Двор.
Вёсцы роўна 20 год.
Збудаваў яе народ —
З пакалення людзі працы:
Курыленкі, Кузьмы, Гацы,
Цільвікі, Жанецкія,
Бароўскія, Умецкія,
Цэлы корч Аўсейчукоў,
Бабка нат' з Грыгарчукоў
(Звуць каторую ўсе Дойка,
Бо кароў даіла бойка).
Усе калісь бяды зазналі.
Час прайшоў, паноў прагналі,
Землю падзялілі згодна.
Сёння ўсе жывуць выгодна.
На былым дзядзінцы пана
Стала вёска муравана.
Мо' каму і не да веры —
Гэта вёска новай эры.
Толькі назва як дакор
Засталась — Цільвіцкі Двор.

**Міхась Красоўскі**
Малынка

## 120 КУРСАНТАЎ

У вёсцы Лука (Гайнаўшчына) жыве 120 гаспадароў. І ўсе яны прымаюць удзел у сельскагаспадарчых курсах. Веды ім дапамогуць атрымоўваць лепшыя ўраджаі на палях, а таксама мець лепшыя вынікі ў жывёлагадоўлі і птушкагадоўлі.

**Генрых Місевіч**

## ІВАН ПРАХАРУК

Ужо чатырнаццаць год Іван Прахарук працуе прадаўшчыком у плёскаўскай краме. За сумленнасць, ветлівасць і дбайнасць аб забеспячэнне крамы ў патрэбныя матэрыялы і прадукты Івана Прахарука паважаюць аднавяскоўцы. Недахопам крамы з'яўляецца тое, што некаторыя пакупнікі паўсядаюцца на бочках ад піва і сваім гоманам перашкаджаюць у працы прадаўшчыку. У Плёсках ёсць клуб-кавярня, і замест на бочках, можна пасядзець на крэслах. Раім гэтым сталым наведвальнікам праводзіць свой вольны час не ў краме, але ў клубе-кавярні, чытаючы часопісы.

**Л. Л.**
Плёскі

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка!

Многа ты раіш усім, хто да цябе напіша. Твае парады бываюць заўсёды карысныя і памагаюць прайсці дрыгву, якая часта з'яўляецца перад намі. Цяпер я сама пішу да цябе і буду чакаць тваёй парады.

Сябравала я з хлопцам са сваёй вёскі, але гэтае сяброўства хутка ператварылася ў каханне. Цэлы год мы сябравалі. Ён адводзіў мяне дамоў, цалаваў і казаў, што моцна мяне кахае. Я таксама прызналася яму ў каханні. І ўсё было добра, пакуль не пачалі ў нашай вёсцы праводзіць электрычнасці. Прыехала ў вёску многа маладых манцёраў. Святам была ў нас забава і я пазнаёмілася з адным з іх. Адразу ён мне спадабаўся. Танцаваў увесь вечар са мной, а потым адвёў мяне дамоў. Пачаў часцей мяне наведваць. І я яго пакахала. А да хлопца, з якім я раней сябравала, пачала дрэнна адносіцца, шукаць якой-небудзь прычыны, каб пасварыцца. Ён убачыўшы ўсё гэта перастаў звяртаць на мяне ўвагу і трактуе мяне як ўсе іншыя сяброўкі. Манцёр выехаў, як толькі скончылася ў нашай вёсцы праца. Але ён гаварыў, што са мною ажэніцца, калі я буду мець 18 год. Ён мае больш дваццаці год. Цяпер сумую па гэтым хлопцу і не ведаю, што рабіць. Не ведаю, дзе ён цяпер, нічога не піша. Што рабіць, ці чакаць на яго, ці прасіць прабачэння ў хлопца з нашай вёскі?

**Маша** з Бельшчыны

Дарагая **Маша!**

Мне здаецца, што аб сваім манцёры мусіш забыць, ён ужо ў іншай вёсцы і напэўна мае сабе іншую. Як сама бачыш, нават не напісаў табе пісьма. Хоць ты кажаш, што кахаеш яго і цяжка табе будзе забыць, аднак я інакш думаю. Ты хутка яго забудзеш, як забылася аб каханні з хлопцам са сваёй вёскі. У тваіх гадах вельмі хутка прыходзіць каханне і яшчэ хутчэй адыходзіць, каб на яго месца прыйшло яшчэ іншае. А хлопца са сваёй вёскі не раю перапрашаць. Гэта было б паніжэннем сябе і асмяшэнне. Паводзь сябе так, як бы нічога новага не здарылася, і ў адносінах да яго будзь так, як і да іншых сяброў.

**Сэрцайка**

---

**— Добры вечар, і выбачайце! — вясёла сказаў Дзяменцяў. — Але я толькі цяпер знайшоў сабе кватэру. Дайце мне, калі ласка, мой чамадан.**

**— Ах, чамадан? Адну хвілінку...**

**Выйшаўшы на вуліцу, Дзяменцяў вылаяў сябе апошнімі словамі: усхваляваны навасцю, якую прынёс Зандэль, ён пайшоў за рацыяй, зусім не падумаўшы, што тут яго могуць чакаць вельмі небяспечныя нечаканасці. Проста цуд, што ўсё зышло так гладка. Не паспеў Дзяменцяў падумаць гэта, як перад ім выраслі два патрулі. Дзяменцяў сказаў пароль, але салдаты дарогі яму не ўступілі.**

**Камандванне акружаных войск, баючыся самавольнай пагрузкі афіцэраў на транспарты, загадала камендатуры: звяртаць спецыяльную ўвагу на падазроных у гэтым сэнсе ваенных. Дзяменцяў, які ішоў у напрамку порта, ды яшчэ з чамаданам, выклікаў у патруля яўнае падазрэнне. Салдаты запрапанавалі Дзяменцяву разам з імі ісці ў камендатуру.**

**— Калі гэта неабходна, ідзем, — спакойна сказаў Дзяменцяў.**

**Ён правільна дагадваўся, чаму выклікаў падазрэнне патруля. За чамадан Дзяменцяў быў спакойны. Рацыя схавана паміж сценкамі двайнога дна чамадана.**

**У камендатуры былі ўжо затрыманыя патрулямі афіцэры. Іх па чарзе запрашалі ў кабінет дзяжурнага каменданта. Выклікалі ўрэшце і Дзяменцява. Ён увайшоў у пакой з чамаданам. Дзяжурны камендант глянуў на яго насмешліва:**

**— Вашы дакументы...**

**Дзяменцяў падаў дакументы.**

**— Так... А куды ж гэта вы сабраліся?**

**— Перабіраюся з часовай кватэры на сталую. З атэля на прыватную кватэру.**

31

**— У якім атэлі вы жылі?**

**— «Брысталь», нумар трыста пяты.**

**Камендант пазваніў у гасцініцу і ўпэўніўся, што затрыманы гаворыць праўду.**

**— Па якім адрасу вы ішлі?**

**— Бастыённая, чатыры, кватэра дзевяць.**

**Камендант паклікаў салдатаў, якія затрымалі Дзяменцява.**

**— Дзе вы затрымалі капітана?**

**— На вуглу Бастыённай.**

**— Правядзіце капітана да яго кватэры. Памажыце данесці чамадан... Выбачайце, капітан, але служба ёсць служба.**

**Салдаты дайшлі з Дзяменцявым да самых дзвярэй кватэры. Адно з двух: або хацелі выслужыцца перад ім, або камендант усё ж загадаў ім праверыць, ці пойдзе капітан па названым ім адрасу.**

**Замкнуўшыся ў сваім пакоі, Дзяменцяў быстра разгарнуў радыёстанцыю і перадаў кароткую радыёграму:**

**«Я 11-17. Эвакуацыя пачынаецца, магчыма, сёння ноччу».**

**Упакаваўшы чамадан, Дзяменцяў лёг на дыван і задумаўся...**

**Цікава, чаму аб пачатку эвакуацыі войск Мельх Зандэлю сказаў, а яму — не? Зрэшты, гэта няважна. Самае галоўнае: ці зможа ён заўтра трапіць у порт? Трывога за гэтае самае галоўнае доўга не давала Дзяменцяву заснуць...**

**(Працяг за тыдзень)**

32

---

## КІНО

**Праграма на 16—21.ІІ.1965 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Winda towarowa" (franc.), 16—18. „Car Kałojan" (bułg.), 19 21.

**Кляшчэлі**

„Czerwony sygnał" (włoski), 16—18. „Przerwany lot" (polski), 19—21.

**Дубіны**

„Złodziej z Bagdadu" (angl.), 20—21.

**Нараў**

„Echo" (polski), 17—21.

**Нараўка**

„Klub kawalerów" (polski), 17—21.

**Чыжы**

„Dziki pies Dingo" (radz.), 17—21.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Wilczy bilet" (polski), 17—21.

**Бранск**

„Rywalki na lodzie" (chiński), 16—17. „Babcie, dziadkowie i ja" (radz.), 18—19. „Bokser i śmierć" (czeski), 20—21.

**Орля**

„Ostrożnie babciu" (radz.), 17—21.

**Райск**

„Życie Adolfa Hitlera" (NRF), 17—21.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Ulica Nadmorska" (radz.), 16—18. „Zdradziecki strzał" (radziecki), 19—21.

**Міхалова**

„Leśny patrol" (radz.), 16—18. „Zalotnik" (franc.), 19—21.

**Супрасль**

„Tajemnice Paryża" (franc.), 16—18. „Pamiętnik pani Hanki" (polski), 19—21.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**

„Statek odpływa o świcie" (radz.), 16—18. „Pięć dni i pięć nocy" (NRD), 19—21.

**Нурэц**

„Zdradziecki strzał" (radz.), 16—18. „Kodyn" (bułg.), 19—21.

**Мілейчыцы**

„Więźniowie nocy" (argentyński), 16. „Krzyżacy" (polski), 17—21.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„W pogoni za meteorytem" (czeski), 16—18. „Teresa Desgueraux (franc.), 19—21.

**Сухаволя**

„O czymś innym" (czeski), 16—18. „Hatifa" (NRD), 19—21.

**Шудзялава**

„Sędzia dla nieletnich" (NRF), 17—21.

**Янаў**

„Chwila wspomnień 1961, 1962" (polski), 16. „Hindukusz" (polski), 17—21.

**Сідра**

„Chwila wspomnień" (polski), 16. „Listy do matki" (radz.), 17—18. „Rzut karny" (radz.), 19—21.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**

„Kapral w matni" (franc.), 20—21.

**Новы Двор**

„Serca trzech dziewcząt" (jugosłowiański), 20—21.

**Ружаныстск**

„Rozwód po włosku" (włoski), 16—17. „Świadek oskarżenia" (USA), 18. „Krzyżacy" (polski), 19—21.

